

## СВЯТА ПОЛЬСКАЙ КНІГІ

Дэкада польскай кнігі, прысвечаная нацыянальнаму святу брацкага народа — Дню адраджэння Польшчы, пачалася ў Гродна. У яе праграме — выстаўкі-продажы мастацкай, навуковай, тэхнічнай, медыцынскай літаратуры на польскай мове, сустрэчы з чытачамі, віктарыны. У свяце кнігі брацкай краіны ўдзельнічаюць прадстаўнікі знешнегандлёвага аб'яднання „Арспалона“.

Намеснік старшыні Гродзенскага абласнога аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы, загадчык кафедры сельгасінстытута В. П. Верхась сказаў карэспандэнту БЕЛТА:

— Такія дэкады ўжо сталі традыцыйнымі. Умацаванню культурных сувязей паміж працоўнымі Гродзеншчыны і ПНР у многім садзейнічаюць таксама штогоднія абмены калектывамі мастацкай самадзейнасці. Цесныя сувязі ўсталяваліся паміж студэнтамі і выкладчыкамі Гродзенскага медынстытута і Беластоцкай медыцынскай акадэміі, Гродзенскага універсітэта і філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку.

У многіх аддзяленнях таварыства — а іх у вобласці звыш дваццаці — арганізоўваюцца выстаўкі польскіх кніг і фатаграфій, праводзяцца віктарыны і конкурсы, чытаюцца лекцыі і даклады, прысвечаныя брацкай краіне. Традыцыяй стала правядзенне сумесных мітынгаў, прысвечаных знамянальным датам. Апраўдвае сябе і такая форма супрацоўніцтва, як абмен лектарамі.

**(Кар. БЕЛТА)**

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ТАКІ ЗДОЛЬНЫ КАВАЛЬ

Ультрагукавы „каваль“, сканструяваны вучонымі Мінскага радыётэхнічнага інстытута, выканаў першыя тысячы метраў найтанчэйшай стужкі з тугаплаўкага вальфрамавага сплаву. Гэтая партатыўная вакуумная канструкцыя меншая за паштовую скрынку, аднак яна эканоміць дзесятую частку металу.

### АБНОЎКІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Паказ мадэлей дзіцячага адзення, які адбыўся ў Брэсцкім гарадскім парку культуры і адпачынку, прысвячаўся Міжнароднаму году дзіцяці. Па традыцыі спецыялізаваныя магазіны „Юнацтва“, „Зорачка“, „Усё для дзяцей“ дэманстравалі новыя вырабы.

### *КАЛЯНДАР*

**70 гадоў назад**

8.10.1909 нар. П. Ярашэвіч, старшыня Савета Міністраў ПНР.

**60 гадоў назад**

11.10.1919 г. у Кракаве створаны Польскі лёгкаатлетычны саюз — першы спартыўны саюз у Польшчы.

12.10.1919 быў створаны Польскі алімпійскі камітэт.

**35 гадоў таму назад**

7.10.1944 створана была грамадзянская міліцыя.

**30 гадоў назад**

7.10.1949 была абвешчана Германская Дэмакратычная Рэспубліка.

* * * * * * * * * * *

*9.10.1909 пецярбургская „Ніва“ пісала: У пачатку верасня ўвесь цывілізаваны свет быў глыбока ўсхваляваны дзвюма тэлеграмамі з далёкай поўначы. Першая тэлеграма была адзначана 1 чыслом месяца і паведамляла, што яе падавец амерыканскі грамадзянін Кук 21 красавіка 1908 года адкрыў паўночны полюс і ўстанавіў на ім усеяны зоркамі сцяг, як завуць амерыканцы свой нацыянальны флаг. Услед за гэтай тэлеграмай, 7 верасня прыйшла другая, падпісаная іншым амерыканскім грамадзянінам, Піры, і паведамляўшая, амаль у тых самых словах, што і першая, аб тым, што Піры адкрыў 6 красавіка 1909 года паўночны полюс і ўстанавіў на ім той жа зоркавы сцяг.*



## МІНСКІЯ СУСТРЭЧЫ

# Улюбёны ў летапісы

У яго сямейцы ўсё праменіць той свойскасцю і сардэчнасцю, якая кожнаму пераступіўшаму парог па-навейшаму і з густам абсталяванай кватэры дадае ахвоты бываць там часцей. І я, выразна выкарыстоўваючы тое, што якніяк, але з Вячаславам і Марынай Чамярыцкімі мы ўсё ж аднакурснікі і выхаванкі нашай шаноўнай Alma Mater — Беларускага дзяржаўнага універсітэта, за два тыдні сваёй пабыўкі ў Мінску некалькі разоў гасцяваў у іх. Не буду таіць: цягнула мяне туды, дзе нават імёны дзяцей, — стройнай красуні студэнткі Мінскага педагагічнага інстытута Веранікі і шустрага вучня пачатковай школы Максіма — узяты з найпрыгажэйшых старонак беларускай літаратуры, бо з чароўных вершаў Максіма Багдановіча. За багата застаўленым рознымі дэлікатэсамі беларускай кухні сталом, праўдзівыя мастачкі якой тут і матуля і дачушка, размовам нашым не было канца. Што ж, не бачыліся мы дваццаць год!..

Вячаслаў Антонавіч Чамярыцкі родам з Навагрудчыны, вучыўся ў сярэдняй школе ў Навагрудку, з якой рукой падаць да легендамі спавітага Міндоўгава замка і славутага доміка Міцкевіча. Хоць Чэсь ніколі і нікому не абмовіўся сам і словам, але я ўсё ж лічу, што гэты факт не застаўся без уплыву на выбар ім напрамку далейшай вучобы. Мы ўсе дзіваваліся працавітасці, зацятасці ў пранікванні ў факты мінулага і асабістай сціпласці нашага статнага бялявага калегі. Пасля заканчэння універсітэта ў 1958 г. ён некалькі год настаўнічаў, працаваў школьным інспектарам на Маладзеччыне. У 1962 годзе паступіў у аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, там з галавой заглыбіўся ў вывучэнне вытокаў і гісторыі беларускага пісьменніцтва. Пасля ж яе заканчэння астаўся на навуковай працы ў інстытуце. У 1967 годзе В. Чамярыцкі абараняе кандыдацкую працу „Беларускія летапісы, як помнікі літаратуры“, якая праз два гады выходзіць з друку каштоўнай для беларусазнаўства манаграфіяй, што атрымала высокую ацэнку ў савецкім і польскім друку.

— Мяне проста запалаліла праца над выяўленнем і вывучэннем нашай літаратурнай даўніны. У свой час уключыўся я ў падрыхтоўку, як дагэтуль, самай поўнай і вычэрпваючай „Гісторыі беларускай літаратуры“, змясціў у ёй раздзелы пра ўзнікненне беларускай літаратуры ў XIV-XV стагоддзі і пра беларускія летапісы. Адначасова давялося прыняць удзел у падрыхтоўцы многатамовай „Гісторыі сусветнай літаратуры“, у яе я напісаў раздзелы пра беларускую літаратуру. Выданне выйдзе ў Маскве на рускай мове. Затым прыйшла мая доўгая і вельмі працаёмкая работа над „Историей дооктябрьской белорусской литературы“, што выйшла з друку ў 1977 годзе. Лічу я, што гэты салідны том належна знаёміць з немалымі багаццямі беларускай літаратуры не толькі чытачоў ва ўсім Савецкім Саюзе, але дзякуючы таму, што ён выйшаў іменна на рускай мове, таксама ў многіх краінах ва ўсім свеце.

Ну і вядома — любімыя яго беларускія летапісы. Падрыхтаваў ён выданне „Хронікі Быхаўца“, якое выйшла чатыры гады таму назад, і „Магілёўскай хронікі“, што неўзабаве выйдзе з друку. Апрача гэтага, В. Чамярыцкі ўносіць вялікі ўклад у папулярызацыю ведаў пра беларускае летапісанне — іменна з-пад яго пяра выйшлі амаль усе артыкулы пра беларускія летапісы, што змешчаны ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Публікуе ён дзесяткі артыкулаў па гісторыі беларускай літаратуры ў розных навуковых і літаратурных часопісах. У той жа час не адмахваецца таксама ад работы па рэдагаванню прац сваіх калегаў-вучоных. Між іншым, В. Чамярыцкі з'яўляецца рэдактарам манаграфіі вядомага ў Польшчы гісторыка беларускай літаратуры Адама Мальдзіса „На скрыжаванні славянскіх уплываў“. Гэтая праца паводле яго: „Вельмі арыгінальная публікацыя, новае слова ў літаратуразнаўстве аб беларускай літаратуры XVIII стагоддзя“. Яна неўзабаве выйдзе з друку.

— Разам з гісторыкам Г. Галенчанкам і мастацтвазнаўцам В. Шматавым мы выканалі заказ ЮНЭСКА на манаграфію пра Францішка Скарыну. Яна нядаўна выйшла на французскай мове, плануюцца таксама выданні на англійскай і, магчыма, іншых мовах. Гэта першая кніга пра нашага выдатнага першадрукара, якая выйшла ў Заходняй Еўропе. Што і казаць, яе выхад усіх нас вельмі цешыць. Дзякуючы ёй увесь свет упершыню пачуе пра высокі ўзровень культуры ў Беларусі ў XVI стагоддзі. Стараліся мы вельмі сцісла, але адначасова змястоўна і глыбока выкласці ў гэтым выданні факты пра творчы шлях і велізарны ўклад нашага слаўнага гуманіста ў развіццё ўсходнеславянскага друкавання.

І тут мой размоўца падаў мне томік у шэрых вокладках, аздобленых эмблемамі скарынінскіх выданняў: Сонца і Месяца.

— Што займае мяне цяпер, пытаеш? Сяджу над даследаваннем беларускага летапісання. Хачу напісаць поўную яго гісторыю, пачынаючы ад зараджэння і да апошніх твораў. Гэта ж адзіны від літаратурнай творчасці, які існуе на працягу ўсяе тысячагадовай гісторыі нашай пісьменнасці. Цудоўная з'ява!..

І як жа не хацелася мне развітвацца з гэтым улюбёным у родную даўніну вучоным і яго чароўнай сямейкай.

**Мікалай Гайдук**




**Маё свята ● Краязнаўчы слоўнік — Вейкі ● Гісторыя белавежскіх мядзведзяў ● Наперакор смерці ● Чаму моладзь уцякае з вёскі, піша М. Матвеюк вершам ● Бізун аб тэлепатыі ● Весткі з Гайнаўкі, Бельска, Бабікаў, Завыкаў, Крывяціч, Дубіч Царкоўных ● Што значыць, калі сніцца, што курыш папяросы, а ў сапраўднасці іх зусім не курыш... ● Песня „Żegnaj lato na rok“.**



**Niedziela 7 X** — 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek TDC, m.in. „Niezwykła piątka”. 10.20 Antena. 10.45 Samoloty i ludzie. Odc. I pt. „Początki latania” — franc. film dok. 11.40 Dziennik. 11.55 Rolnicze rozmowy. 12.25 Z kamerą wśród zwierząt. 12.50 Koncert życzeń. 13.30 Dni zdrady — film fab. CSRS. 15.05 Los. Dużego Lot. 15.20 Zgadnij, kim jestem — teletur. 16.05 Koncert z okazji rocznicy powstania MO. 17.05 TELE-ECHO. 18.05 Sport. I liga piłki nożnej. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.15 Korzenie — odc. V film fab. USA. 21.15 Muzyka małego ekranu. Danuta Rinn, Zdzisława Sośnicka, Zbigniew Wodecki i inni. 22.25 Studio sport. 22.40 Przeboje mistrzów — odc. 12.

**Poniedziałek 8 X** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — naucz. początkowe. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.20 Autobus odjeżdża 6.20 — pol. film fab. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV. Bruno Jasieński — Bal manekinów. 22.15 Publ. kult. 23.00 Dziennik. 23.15 Raport w sprawie dzieci niczyich.

**Wtorek 9 X** — 15.25 Program dnia. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Tel. Młodych. 17.00 Klinika Zdrowego Człowieka. 17.25 Sonda. 17.50 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.20 Między nami jaskiniowcami. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 20.15 Saga Rodu Rius. Odc. II film fab. TV hiszp. 21.20 Sport. 22.10 Dziennik. 22.25 Program publ. 22.45 Camerata.

**Środa 10 X** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — mat. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.00 P. nożna Polska—Islandia. 18.45 Dom i my. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Film TV na świecie. Poszum wiatru — jap. film fab. 21.10 Finały mistrzostw Europy w siatkówce mężczyzn. 21.40 Nigdy więcej. Bezkarni — film dok. 22.10 Dziennik. 22.25 Program publ. kul.

**Czwartek 11 X** — 15.25 Program dnia. 15.30 Decyzje piętnastolatków. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Czwartek Tel. Dziewcząt i Chłopców. 17.30 Skarbiec. 17.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.25 Poligon. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 07 zgłoś się, odc. pt. „Dlaczego pan zabił moją mamę?” — film sens. 21.15 Pegaz. 22.00 Dziennik. 22.25 W minutę po premierze.

**Piątek 12 X** — 11.55 Uroczysta odprawa wart przed Grobem Nieznanego Żołnierza w Warszawie w 36-tą rocznicę powstania LWP. 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Ped. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Piątek z Pankracym. 16.55 Magazyn motor. 17.25 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.55 Najmłodszy z rodu Hamrów, odc. 5 pt. Podniesiony kamień — film fab. CSRS. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Pr. wojsk. 21.50 Ballada o Wiśle — pr. muzyczno-poetycki: wyk. Chór Centralnego Zespołu Art. W. P. i Ork. Polskiego Radia i Tel. w Łodzi. 22.35 Dziennik. 22.40 Świat, ludzie, idee.

**Sobota 13 X** — 13.15 Program dnia. 13.20 Radzimy rolnikom. 13.30 Obiektyw. 13.50 Dziennik. 14.00 Orbita. 14.30 Wojsk. Pr. Hist. Białostocka skarbnica oręża. 15.00 Dwudziestolatki w polskim filmie. 15.30 Szklana Kula — pol. film fab. 17.00 Ludzie do wynajęcia — rep. film. 17.20 Szanujmy wspomnienia. 18.10 Sport. Eliminacje samochodowe mistrzostw polski. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Weekend w Zuydcoote — francusko-włoski film fab. (wojenny). 22.35 Na estradach świata. Burt Bacharach zaprasza do parku. 23.35 Dziennik. 23.50 P. nożna. NRD—Szwajcaria.

(ur)



**Piątek 5 X** — 7.45 Film fab. 14.45 Białoruska muzyka kameralna. 19.45 Hokej. Dynamo (Moskwa) — CSKA.
**Sobota 6 X** — 12.45 Film anim. 13.40 W świecie zwierząt. 14.55 Pr. muz. 20.00 Pr. muz.
**Niedziela 7 X** — 12.30 Film fab. 13.50 Film anim. 14.30 Balet. 16.15 Koncert. 17.40 Film fab. cz. I, 19.45 cz. II.



**Беларуская радыёперадача: субота 12.05—12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Wdowieństwo Karoliny Zasler — jug. 9—10. Gwiezdne wojny — USA 11—12. Komisarz w spódnicy — fr. 13—14.

**Bielsk Podl.** Przed ciszą — rum. 9—10. Bufalo Bill i indianie — USA 11—12. Zabójstwo chińskiego maklera — USA 13—14.

**Czeremcha** Miłość Adeli H. — fr. 9—10. Kwiecień — pol. 13—14.

**Gródek** Zaułek dziewic — meksyk. 13—14.

**Hajnówka** Mroczny przedmiot pożądania — fr. 8—9. Przyjęcie — rum. 10—12. Stu koni do stu brzegów — pol. 13—14.

**Michałowo** Niezwykła Sarah — ang. 9—10. Godziny miłości — szwedz. 11—12. Gra o jabłko — czes. 13—14.

**Mielnik** Gdziekolwiek jesteś Panie Prezydencie — pol. 10. Człowiek klanu — USA 13—14.

**Milejczyce** Mężczyzna z białym goździkiem — szwedz. 10. Niewinne — wł. 13—14.

**Narew** Stan wyjątkowy — buł. Kiedy dojrzewa jagoda — jug. 10—14.

**Narewka** Wdowieństwo Karoliny Zasler — jug. Mareczku podaj mi pióro — czes. 10—14.

**Nurzec** Piraci na Pacyfiku — rum. 9—10. Prorok, złoto i siedmiogrodzianie — rum. 11—12. Wierna żona — fr. 13—14.

**Rajsk** Sandakan — jap. Trzy orzeszki dla Kopciuszka — czes. 10—14.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE”**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 1757. Nakład 7.680 egz. S-2

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ.

## ДРУГУ

*адыходзіш*
*не аглянуўшыся*
*— мо гэта лепш*
*парушаная ціша*
*разгорне раніцу*

*З надыходам прадвесня*
*пранясу цябе праз*
*парогі царквоў*
*і астанешся бязгрэшным*
*толькі спярша разгарні ўнутры*
*каб астацца без паваротаў.*

*

*я прымаю*
*цябе*
*невялікімі часткамі*
*і*
*раскінуць хачу*
*па галлі адчуванняў*
*каб паверыла*
*сэрца*
*што ёсць*
*рукі*
*грудзі*
*што гавораць.*

**Марыя Базылюк**



* * *

Колькі раз я кахаў
як навучыўся хадзіць!
Крыху было радасці, болей гаркоты.
Мо кахалі дзяўчаты, ды і раз не адзін,
болей кпілі таксама, як ты.

Не палохайся, гэта не тая любоў,
што апальвае крылы дзяўчатам.
Затумань, супакой толькі неяк бацькоў,
Ранкам летнім вырвіся з хаты.

Пойдзем ў сонцы адны — ты і я.
Нашых рук датыкаць будуць збожжа, валошкі.
А ў блакіце гарачым зазвоніць жаўрук
і аб шчасці нам паварожыць.

**Алесь Батура**

* * *

стаць сабой
і на трэцім скрыжаванні
глянуць проста ў вочы свайму лёсу
запытаць
дзе адказ на пісьмо
высланае яшчэ ў гадах
калі зелень малілася
і верыла ў пагоду
адрас быў выразны

без адказу
ідуць дзеці ў зямлю
на якой манета не спапялілася
немагчымасць
жыць у такіх пейзажах

**Надзея Артымовіч**

## ВЫГАНЯЙ МАРОЗ НА ДВОР

*— Маем снежань, — кажа мама, —*
*Вельмі дзіўная пара.*
*Кожны новы дзень з дажджамі,*
*А марозу ўсё няма.*

*Ёсць ён, ёсць, штодзённа страшыць*
*— Адказаў малы Ягор. —*
*У лядоўніку ён нашым,*
*Выганяй яго на двор!*

**Віктар Швед**

* * *

Як лань прыходзіць да крыніцы
Так да цябе прыходжу сёння
каб піць з празрыстай ціхай тоні
як лань прыходзіць да крыніцы
прыходжу я каб весяліцца
каб шчасця зачарпнуць далоняй
як лань прыходзіць да крыніцы
так да цябе прыходжу сёння

**Алесь Барскі**



* * *

увайшла
у дождж
і сяджу
дождж
дождж
ка-
па-
е
сля-
зой
увабраная
кроплямі
я
сачуся
шостая за
пятай
па шчаках
дождж
слёзы
дождж
слё...

**Ваву**



## Чарадзейскі птах

Адзін птах
ляцеў
сярод ніў,
Над раўнінаю
соннаю
плыў...
У блакіце купаўся
агнію,
Сумну чару
піў ў хмарах
сваю...
Ля мяне
пяро упусціў...
Я падняў...
І зрабіў з яго...
... верш...

**Юрка Трачук**

## ЛЯ ВОЗЕРА РЫЦА

*Высокая ў велюме белым Агепста*
*Глядзіць на зялёнае люстра вады,*
*Стаіць, як застылая ў камень нявеста,*
*А побач Ацэтух, як муж малады.*

*І так ужо векі ў саване дрымотнай*
*Шмарагдавай пушчы хаваюць ступні,*
*Каб іх не мачыла бальзамам вільготным*
*Глыбокае возера ў бурныя дні.*

*Цяпер ціха мыюцца пырскамі сонца*
*І слухаюць птушак чароўную трэль;*
*І сочаць, як лодкі на возера плёнцы*
*Танцуюць да вечара вальс ці кадрыль.*

*Ды толькі не цешаць іх шумы матораў,*
*Што з рэхам бягуць па спакойнай вадзе.*
*І страшаць навокал птушыныя хоры*
*На сцэне лясных таямнічых падзей.*

*Кафэ, рэстаран, і ларкі, і кіёскі*
*Абселі ўвесь бераг, як дрэва грыбы,*
*Як мухі на свежай дзявочай прычосцы,*
*Якую старанна цырульнік зрабіў.*

*Ды радуе гэта ўсю зграю турыстаў,*
*Прыйшоўшых сюды з аддалёных краін,*
*Каб зрок напаіць панарамай скалістай*
*І нектарам фарб маляўнічых карцін.*

*Каб, страціўшы сілы ў спякоту, як сёння,*
*У ценю кафэ выпіць сок ці віно,*
*Пазнаць з-за стала шматгадовую тоню,*
*На снежны хрыбет пазіраць праз акно.*

*Пайсці пасля ўверх па цяністых ступеньках,*
*Крынічнай вадой асвяжыць потны твар,*
*Зірнуць у шашлычнай на гурты кліентаў,*
*Паслухаць мелодыю гучных гітар.*

*Яны так сардэчна пяюць аб дзяўчыне.*
*Праславіўшай іменем возера бляск,*
*А вецер разносіць па ўсёй катлавіне*
*Цудоўныя гукі, чароўны расказ.*

*Здаецца, што зноў я ў далёкай станіцы*
*Спаткаў медсястру з цёмнарусай касой,*
*А вочы яе ззяюць колерам Рыцы,*
*А твар ап'яняе чароўнай красой.*

*Калісь я расстаўся з ёй ціха і проста,*
*Бо голас вайны нас паклікаў у бой.*
*Цяпер адыходжу з шампанскага тостам,*
*А вобраз яе забіраю з сабой.*

**Д. Шатыловіч**



## ДЫРЭКТАРОЎШЧЫНА

Ян Гальшанскі пачаў працаваць у рамонтнай майстэрні трактарнай базы ў Даўгаброддзі. Аграном па прафесіі, ён стаў механікам, і зарабляў больш, чаго як бы саромеўся.

Гальшанскі стаў на кватэру ў старой удавы, якая ў той жа вечар расказала яму аб сваім жыцці і пра дачку Гандзю, што была замужам дзесьці далёка. Выслухаўшы жанчыну, ён павячэраў, прагледзеў за сталом газету, затым памыў у халоднай вадзе ногі (каб не пацелі яны), і з палёгкай укладаваўся спаць; ужо з пачаткамі ўдушу, пакурваў мала, а з алкаголяў прызнаваў адны каньякі.

Як чалавек, які апынуўся ў новым асяроддзі, Ян Гальшанскі зразу не паважыўся наладжваць знаёмстваў; прыглядаўся да людзей. Яму, добраму майстру, пасыпаліся прыватныя заказы; стала хапаць часу ўсяго на спешлівае абеданне ў сталоўцы, дамоў жа вяртаўся пад поўнач. — Вы зашануйце сваё здароўе, — пагаворвала ўдава, калі ў Гальшанскага не з'яўлялася жаданне паесці нанач. Прайшоўшы да сябе ў пакой, ён вымаў з кішанёў жмуткі грошай, выгладжваў банкноты і клаў іх за вокладку ашчаднай кніжачкі, што захоўваў у шуфлядзе камоды; здаралася: захроп, пакуль здолеў укрыцца коўдраю.

Пры свяце выпіваў Гальшанскі кумпястую чарку армянскага, браў у рукі купленую кніжку (пра Дантона). Любіў ён сядаць ля вакна, з відокам на лугі і лес.

Аднойчы Гальшанскі разгаварыўся з гаспадыняй на адвечную тэму разбэшчанасці ў маладых. Але яна счапілася пярэчыць яму, бароначы гэтым Гандзю, аб якой згадвала, што лёгкадумна пакінула мужа. Удава запамятала размову, зрабілася бурклівай.

На працы ён прамовіўся перад загадчыкам майстэрні аб тым, што ёсць магчымасці рацыяналізаваць арганізацыю рамонтаў гаспадарскіх машын так, каб не вазіцца з імі на базу, што палепшыла б становішча асобніцкіх гаспадарак і паспрыяла б скарачэнню хабараў. Стары чуйна зірнуў на Гальшанскага і сказаў, што яму, хлопчыку, авёс закалоў у зад... Злосць тую пусціў Гальшанскі міма вушэй, але яна неўзабаве аб'явілася яму на сходзе працаўнікоў, калі спрабаваў ён змяніць тон спрэчак па дакладу дырэктара; з малебенскага на дзейсны. На яго паказвалі пальцам, нават актывісты на прадпрыемстве; іншыя ж, дрымотна пашчыліўшы вочы, прынцыпіяльныя гутаркі заканчвалі прапановай выпіць. Ён упарціўся; схадзіў у мясцовы камітэт прафсаюзаў, і, натуральна, адчуў вакол сябе нешта такое, што ў фізіцы мае назву з'явы супраціўлення мяккіх целаў.

У сталоўцы сілкаваўся ад таго здарэння моўчкі; яму — не тое, што абрыдла сцерагчыся ўласных думак, — утомна дакучаў аднак страх перад той памылкай, якая прымусіла б яго пакінуць, неблагую ўрэшце, пасаду. Таму набраўся ён выгляду надзьмутай асаб стасці.

І празвалі яго дырэктаровіч.

„Яны лічаць, што памкненні ды ўчынкі не бываюць бескарыслівымі", — падумаў Ян Гальшанскі пра супрацоўнікаў.

Ён неяк апусціўся ў спакой.

На заканчэнне гэтай няхітрай гісторыі, відаць, трэба сказаць, што Ян Гальшанскі ператварыўся з гадамі ва ўсім шанаванага жыхара Даўгабраддзя, разжыўся на аднапавярховы асабняк з басейнам у садзе (у недалёкім мястэчку), выпісаў сабе легкавую машыну амерыканскай маркі „Ягуар", а летні адпачынак пастаянна праводзіў на поўдні Еўропы; калі ажаніўся з чароўнай пекнаты ды ціхага характару настаўніцай суседняй школы, даўгабродзінцы папракалі яго перад чужымі ў тым, што ён узяў шлюб з ёю ажно ў парыжскай саборнай царкве.

Гальшанскі рызыкнуў на свой рахунак і заснаваў фірму са змешаным, пауканадскім, капіталам; са спецыяльнасцю па вырошчванню і экспарту мудрагелістых грыбоў, характэрных кліматычнай зоне на Беласточчыне.

Сядзібу Гальшанскіх местачкоўцы назвалі — Дырэктароўшчынай.

Гальшанскую ж — французіхай.

**С. Яновіч**




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

## ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА XLIII

У апавяданні „Андрэй-выбаршчык“ паказаны першыя праявы грамадскай актывізацыі беларускай вёскі. Твор гэты звязаны з тымі ўмовамі, якія былі характэрны для рускай імперыі ў перыяд рэвалюцыі 1905 года. Дзеянні паказаных у апавяданні сялян не маюць аднак нічога супольнага з рэвалюцыйнымі выступленнямі. Апавяданне гаворыць аб тым, што ў перыяд лібералізацыі царскай сістэмы многія палітычныя партыі ў час выбараў стараліся запэўніць сабе сялянскія галасы. Андрэй-выбаршчык — гэта сялянскі дэлегат, які прымае ўдзел у нейкім акруговым з'ездзе. Вярнуўшыся ў вёску, інфармуе ён сялян аб выніках сваёй місіі. Вынікі гэтыя раўняюцца нулю. Сялянская маса пераконваецца, што лібералізацыя існуючай сістэмы не прадвяшчае вёсцы ніякай палёгкі і што лёс краіны, так як і дагэтуль, будзе вырашацца не сялянамі, а прадстаўнікамі іншых класаў. Таму сяляне перастаюць верыць у паспяховыя вынікі легальных спосабаў дзеяння.

Пісьменнік-рэаліст не паказвае гвалтоўнай псіхічнай метамарфозы сялян. Не робіць з іх свядомых рэвалюцыянераў. Пазбягае такім чынам літаратурнай наіўнасці, утрымоўвае свой твор у нормах жыццёвага аўтэнтызму.

Спецыфічнай рысай апавядання „Андрэй-выбаршчык“ з'яўляецца арганічнае спалучэнне сур'ёзнага і гумарыстычнага. Пісьменнік уводзіць у паважны тэкст многа камічных элементаў, якія дасканала яго ажыўляюць. Дзеянне ў апавяданні жывое, „справаздача“ сялянскага дэлегата Андрэя палемістычная, але насычаная меткімі славечкамі і гумарыстычнымі дэталямі. Камізм гэтых дэталяў паглыбляецца тым, што Андрэй падае іх з горычу і злосцю.

Другім творам, у якім выведзены формы супольнага сялянскага дзеяння, з'яўляецца „Нёманаў дар“. У гэтым вельмі цікавым апавяданні паралельна паказаны — сялянская маса і постаці вясковага хлопца Васіля і лесніка.

Увесь канфлікт твора мае як бы штучны выпадковы характар. Сяляне хочуць перанясць лугі, якія былі далучаны да іх зямлі Нёманам, змяніўшым рэчышча. Зразумела, што гэтай справы не выйгралі б яны ў ніякім судзе свету. Аднак сяляне, чуючы інстынктоўна тое, што на працягу стагоддзяў дзяржава сваё бяспраўе прыкрывала правам і што ўсе канфлікты вырашала на карысць багатых, пастанавілі скарыстаць з ласкі „суддзі“ — Нёмана, які вялікадушна далучыў да іх зямель зямлю чужую. Вось за гэтую зямлю, якая афіцыйна з'яўляецца не сялянскай, а ў свядомасці мясцовых жыхароў ім належыцца, вядзецца змаганне. Змаганне мае характар стыхійны. Прымаюць у ім удзел усе сяляне. Аднак з сялянскай масы выдзяляе пісьменнік постаць вясковага хлопца Васіля, які ў вельмі сцэнічнай бойцы з леснікам бароніць „дару Нёмана“. У гэтай бойцы Васіль гіне.

Апавяданне „Нёманаў дар“ цікавае тым, што ў яго змесце спалучаецца ў адно індывідуальнае і калектыўнае, знешняе і псіхалагічнае. Галоўнае ў творы — гэта дух змагання, які прачнуўся ў зняволеным беларусе.







У чаромхаўскім кругу балельшчыкаў ні аб чым больш не гаварылася, як аб матчы з беластоцкім „Электронікам“.

— Прышпараць, ці дастануць? — задурваўся пытаннямі Міхасёк.

Міхась, мой добры сябра, гэта балельшчык чыгуначнай каманды „Калеяж“. Яму кожны матч — гэта свята. І сёння рыхтаваўся па-святочнаму. А тут жонка загад дае: — Заўтра, даражэнькі, збірайся да сваякоў. Справа ёсць...

— Ехаць, дык ехаць, — дабрадушна сказаў той. — Толькі я матч хацеў бы паглядзець...

— Ты што, стары, здурэў? — затраскатала палавіца. — Я табе матч пакажу, што не пазбіраешся!

Скуліўся Міхасёк, ды перастаў вясці дыспуту з сваім „камандзірам“. Бо яго жонка — сапраўдны камандзір. Загад мае быць выкананы і канец. Ведаў аб гэтым добра.

Едучы цягніком, глядзеў мой сябра, як каманда „Калеяжа“ праводзіць трэніроўку на пляцоўцы. І рваўся душой да сваіх футбалістаў. Вось, каб мне ўбачыць гэты матч! Здарова было б!

Аформіўшы справы, першым цягніком вяртаўся Міхась дамоў.

„Усё аформіў на „выдатна“, — думаў сабе. — І матч яшчэ пагляджу крышачку...“

Якраз пачалі другую палавіну. А вынік не надта: 2:1 у карысць каманды „Электронік“. Міхась далучыўся да сваіх балельшчыкаў і штораз крычаў:

— Гані хутчэй, і па брамцы! Страляй па брамцы, не забаўляйся!

Неўзабаве выраўнаўся лік брамак: 2:2. А пасля маланкай пасыпаліся голы: 3:2, 4:2. І на момант перад заканчэннем матча ўляцела пятая брамка. 5:2 — перамог „Калеяж“. Усе балельшчыкі чыгуначнай каманды скакалі з радасці. — Ну і спісаліся нашы хлопцы, — цешыўся Міхась. — Малайцы!

Маланкай прыляцеў дамоў. Ужо рот раскрыў, каб абвясціць навіну сваёй палавіцы, як убачыў яе нахмураны твар.

— Ты дзе гэта валочышся?! — загрымеў „камандзір“ дома, жонка значыць.

— Як дзе? — заікнуўся Міхась. — На матч хацелася крышачку глянуць.

— Ты, валацуга, знюхаўся ўжо з нейкай, а матчам вочы муціш...

І пасыпаліся громы на нявінную Міхасёву галаву. Жонка ўсё больш наступала, а ён, схаваўшы галаву ў плечы, прымаў яе громы. Чакаў канца. А калі тая скончыла, усміхаючыся праз зубы, сказаў: — Вось гэта быў матч! Нашы перамаглі!

**Ул. Сідарук**

## АСВЕТНЫЯ ДЫЛЕМЫ

У Беластоцкім ваяводстве вучыцца зараз 75 600 асоб у пачатковых школах, 8500 у агульнаадукацыйных ліцэях і звыш дзесяці тысяч у тэхнікумах і прафесіянальных школах. 20 000 дзяцей ахоплена прадшкольнай апекай. У I і II класах рэфармаванай школы займаецца 19490 вучняў. Навучае іх 1081 настаўнік. Цяпер у школу даязджае больш 15 тысяч вучняў, якія карыстаюцца школьнымі сродкамі транспарту. Харчаваннем ахоплена 72% школьнікаў. Памяшкальныя і транспартныя клопаты маюць аднак школы ў гмінах: Бельск, Бранск, Гродзіск, Гарадок, Кузніца, Сідра, Шудзялава і Вышкі. У многіх школах не хапае настаўнікаў пачатковага навучання, польскай мовы, фізкультуры, матэматыкі і сельскагаспадарчых прадметаў. Нешматлікія толькі абсальвенты прыступілі да працы, значная колькасць настаўнікаў перайшла на пенсію або перайшла працаваць у іншыя ўстановы. У выніку гэтага пачало вучыць дзяцей 150 асоб, якія не маюць настаўніцкіх кваліфікацый.

**(яц)**

## МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ!

## ПЁТР НІЧЫПАРУК

Да Пятра Нічыпарука трапіць не цяжка. Сяліба яго шырокая. Ад вуліцы абгароджана яна доўгім драўляным плотам, памаляваным чырвоным колерам. А за гэтым плотам у шарэнгу стаяць: у адным вуглу высокі драўляны крыж, у другім — кудравая таполя, а паміж імі расце шэсць стройных беласнежных бяроз з зялёнымі кронамі. Відавочна, любяць Нічыпаркі бярозы, шануюць іх за пяшчотную прывабнасць. Глыбей у агародзе растуць кветкі, сярод якіх выдзяляюцца вяргіні, а за імі шмат яблынь і груш. Паміж гэтымі фруктовымі дрэвамі стаіць мураваная хата з прыгожым ганкам ад вуліцы.

А ў хаце спатыкаем мы Пятра Нічыпарука і яго дзве дачкі: Анну, якая пасля заканчэння СГПіС-у ў Варшаве працуе на хімічнай фабрыцы ў Гайнаўцы, і Яніну, якая ў бягучым годзе закончыла беларускі ліцэй у Гайнаўцы.

Але вернемся да гаспадара хаты. Калі быў ён маладзейшы (цяпер яму 57 год), многа часу прысвячаў сталярству і цясельству. Рабіў вокны і дзверы, разам са Сцяпанам Васілюком (ён ужо не жыве) ставіў сялянскія хаты. Імі шмат было пабудавана дамоў у іх роднай вёсцы **Чэхі Арлянскія** (гміна Дубічы Царкоўныя), у Грабаўцы, Тафілаўцах, Рудцы, Войнаўцы, а нават у Пашкоўшчыне, Кляшчэлях і Чаромсе.

— Не менш ста хат нашай прадукцыі ў гэтай ваколіцы, — сцвярджае наш размоўца.

Пётр Нічыпарук — таксама самародны каваль. Рамонт плугоў, а асабліва вастрэнне лемяшоў у кожным сезоне давялося яму выконваць. Ён таксама здольны бондар, шавец.

Неабходна сказаць і аб тым, што разам са сваім шваграм змураваў сабе хату і закончыў яе, сам змураваў варштат і ў ім паставіў печ.

Апрача ўсяго гэтага, ён таксама нядрэнны гаспадар. У яго 9 га зямельных угоддзяў, якія належна апрацоўвае, а таксама займаецца ён жывёлагадоўляй.

Распытваючы Пятра Нічыпарука аб яго самародных здольнасцях, мы пачулі ад яго і пра перыяд нямецкай акупацыі, прымусовыя работы, на якія быў ён вывезены і адкуль уцякаў дамоў, за што немцы закінулі яго ў лагер у Бельску, дзе ён памарозіў рукі і цяжка хварэў.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**





**„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-79“**

У катэгорыі фальклорнай песні дуэт у складзе Антаніны Назарук і Зофіі Кулік са Старога Корніна заняў другое месца (першага месца журы не прызнала).

**Фота Я. Целушэцкага.**

## ФАЛЬКЛОР

### ВЯСЕЛЬНАЯ




*Ой, дзе ты, матулю, доўго ходзіш?*
*Чаму з хлебом-соллю ні выходзіш?*
*Мы штэры мілі праехалі,*
*Мы ўжэ вечэраць захацелі,*
*а вы, матулю, тое знайце —*
*нам вечэраці хутчэй дайце.*
*Як паселі прыданкі,*
*той пагнуліся лаўкі,*
*як наядзяцца й нап'юцца —*
*яшчэ лепей пагнуцца!*

Ад Антаніны Лясоты, 1901 года нараджэння, вёска Цісоўка гм. Міхалова, якая цяпер жыве ў Беластоку, запісаў у сакавіку 1979 года Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

На ўсходзе ружавела сонца, а на захадзе разам з грукатам, падобным да грому, узнімаліся ў неба маланкавыя бліскі. Ваня Ваўрэнцюк выбег на загуменне. І тады пачалося сапраўднае пекла. Недзе ад Буга безупынку стралялі гарматы. Снарады з шалёным візгам несліся над Крупіцамі і разрываліся недзе ў Сямяцічах.

— Я зарыўся носам у самую глыбокую баразну бульбяніка і ўпершыню юнацкім сэрцам адчуў цэлы жах лютай вайны. Баяўся смерці. Здавалася мне, што кожны снарад ляціць на мяне, за кожным разам я зноў і зноў перажываў сваю смерць. І тады падумаў: калі цяпер выжыву, дык жыць буду доўга...

Калі закончылася гарматная кананада, адазваліся кулямёты і вінтоўкі, а неўзабаве ў вёсцы паявіліся савецкія байцы, якія хутка адыходзілі на ўсход. Аднаго з іх, нейкага палітрука-капітана, спыніла яго маці.

— Што вы так уцякаеце? А што з намі будзе?

Палітрук спыніўся на хвіліну і адказаў:

— Не бядуйце, цётка! Гэта ненадоўга. Мы хутка вернемся.

Цяжка было паверыць у гэта, бо навокал бушаваў агонь. Гарэла вёска Крупіцы, гарэлі суседнія вёскі, цэлы Буг стаяў у агні. Пасля абеду ўсе дарогі запоўніліся немцамі. Ішлі яны, быццам мурашкі з разарванага мяшка. Толькі ад Слохаў Аннапольскіх і ад штаба ў ваенным гарадку за Крупіцамі ўсё яшчэ даходзіла рэха перастрэлкі.

Падвечар на хутар Ваўрэнцюкоў прыбегла тая ж Надзя Закрэўская і кажа, што ўсіх раненых савецкіх воінаў сабралі ў каменным доме Ігнаціхі, што там жа знаходзіцца таксама той лейтэнант, які прыходзіў чыніць боты. Просіць ён дапамагчы.

— Пабегла маці да Ігнаціхі. Ухапіла, што было ў хаце, каб у чым-колеч дапамагчы бедным салдацікам, і паімчалася туды.

Лейтэнант пазнаў сялянку і пачаў прасіць, каб яго некуды забралі, што яму ўжо жыць нядоўга засталося, што ён не хоча паміраць у гітлераўскім палоне...

Вярнулася маці дамоў і кажа пра ўсё гэта свайму мужу.

— Штосьці прыдумаем, — рашыў Пятро Макаравіч і сам пайшоў да немцаў прасіцца, каб яго ўзялі да вывазкі параненых. Адправілі іх у лагеры ў Драгічын і Бялу Падляску. Аднак гэтага лейтэнанта, замест у лагер, ён ноччу прывёз на свой хутар.

— Яго прозвішча — **Суроў Ігар Уладзіміравіч**, — кажа наш госць.

І застаўся ён у Ваўрэнцюкоў, хаця за гэта пагражаў расстрэл цэлай сям'і. Пра яго лёс — наступным разам.

**Віктар Рудчык**

**(Працяг са стар. 1)**

## Рашаючы фактар

Боўтрык, Юзэф Сватко, Міхал Пташынскі, Мікалай Харкевіч, Міхал Баканач, Міхал Валкавыцкі, Міхал Дрозд, Ян Мелеш і іншыя. Цяпер сельскагаспадарчая прадукцыя найлепш развіваецца ў Скупаве. Вёска гэта налічвае 460 жыхароў. Шматлікія гаспадары пачалі спецыялізавацца ў гадоўлі быдла. Абзавяліся яны ўласнымі трактарамі і падвеснымі сельскагаспадарчымі машынамі.

Найбольш таварныя гаспадаркі ў гміне вядуць: Станіслаў Харашэўскі з калоніі Парослае (каля Ляшукоў), які развівае авечкагадоўлю, Ян Сухадола з Тарнопаля (ён спецыялізуецца ў гадоўлі ўбойнага і малочнага быдла), Ян Семяняка (гадуе свіней і кароў), Павел Галубоўскі з Новага Ляўкова (гадуе буйную рагатую жывёлу), Юзэф Сватко са Смольніцы (займаецца гадоўляй быдла з перавагай малочных кароў), Міхал Пташынскі с. Васіля з Міхнаўкі, Шымон Харкевіч з Ляшукоў і іншыя.

**(яц)**

Імпартгумар

# ХОД КАНЁМ

Вось, нарэшце, і база „Сельгастэхнікі“. Выскакваю з машыны і спяшаюся да загадчыка.

Выказаў сваю просьбу наконт запасных частак. А загадчык мне — амаль ласкава:

— Такіх, мілы ты мой чалавек, у нас даўно няма, фонды выбраны.

А мне аж холадна стала. Як жа, думаю, быць — у такую гарачую пару машыны прастойваюць. І раптам смелая думка ў галаву цюкнула. Я гавару загадчыку:

— Прывітанне вам, Лявон Спірыдонавіч, ад Івана Сафронавіча, — і кладу сваю заяўку на стол. — Прасіў спытаць, чаму не званіце яму, у госці запрашае...

— Дзякую! Ну, а як ён там маецца?..

— Лепш жадаць не трэба. Кватэру нядаўна новую атрымаў, машыну „Жыгулі“ прыдбаў, пчолкамі абзавёўся. Восенню свежы мядок будзе.

— Шанцуе чалавеку... А я вось марнею ў гэтым кабінеце, вораграў нажываю. Сябру паклон, браток, вязі, жонцы яго таксама...

Гаворачы гэта, ён чыркнуў на паперцы „выдаць“. Неяк так весела глянуў на мяне, заўсміхаўся, відаць, пагаварыць пра тое-сёе захацелася. Ашалелы ад шчасця, выхопліваю з рук заяўку і спяшаюся хутчэй за дзверы. Галоўнае зараз, каб не хутка адумаўся загадчык, не спытаў што-небудзь пра тое. чаго я не ведаю...

**Віктар Горбач**

## КОНКУРС

*Аб'яўлен быў у лесе конкурс песні.*
*— У хор прымаюць! — чутку тут разнеслі.*
*Зляцеліся Сініцы, і Стрыжы,*
*І Вераб'і, і Галкі, і Чыжы.*

*Вароны каркалі і зграяю ляталі,*
*Сарокі, як трашчоткі, стракаталі,*
*І Зяблік прыляцеў туды, і Драч.*
*Журы ўзначаліў сам Крумкач.*

*На конкурс прыляцеў здалёк Салоўка.*
*Крумкач пракаркаў: — Быццам ты і лоўкі,*
*Але зусім няважны выгляд маеш.*
*Паслухаем, ці хораша спяваеш.*

*А ці высокага ты варты звання —*
*Закрытае рашыць галасаванне.*
*Калі падымуць за цябе хвасты —*
*У хор тады прыняты будзеш ты.*

*Спявалі ўсе, камісія сачыла,*
*У хор „славутых“ птушак залічыла,*
*Хоць як хто песню ні спяваў сваю,*
*Была адмова толькі Салаўю.*

*— У хор да нас зусім не падыходзіш:*
*Званчэй за ўсіх ты песенькі выводзіш.*
*У спевах тваіх мала прастаты,*
*Бяда, што надта галасісты ты...*

**Мікола Вяршынін**



**Біў посуд, але шчасце да яго не прыходзіла.**

# НІЎКА



### НАВОШТА?

— Кастусь, чаму гэта Васіль да цябе перастаў хадзіць? — пытае жонка.

— А навошта? Ён кінуў піць.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Даведаўшыся, што яго субяседнік працуе катам, малады чалавек сказаў:

— Няўжо вам не сорамна займацца такой работай?

— А што ж рабіць? — уздыхнуў кат. — Усім трэба жыць...

*

— Ты хворы?

— У мяне афрыканскі грып.

— Афрыканскі? Колькі ж ты заплаціў тамажанны пошліны?

*

Два грабежнікі ў магазіне набіваюць чамаданы мужчынскімі касцюмамі.

— Жак, глядзі, — гаворыць адзін, — за гэты касцюм яны дзяруць пяцьсот франкаў! Гэта ж сапраўдны грабеж!

## ГУМАР З БАРАДОЮ

### ХТО ЧАГО ВАРТЫ

Мікола Хвастун вельмі любіў выхваляцца перад суседзямі. Аднаго разу ён і кажа да суседа:

— Вось, братка, я цябе патрапіў бы сто разоў на дзень прадаць.

— Нічога дзіўнага, — адказвае сусед. — відаць, я нечага варты. А цябе вось дык, пэўна, ніводнага разу не прадаў бы, хоць бы і сто разоў хадзіў на кірмаш.



— Я думаў, што гэта ў мяне запальнічка...

### АДНО СЛОВА

Ён: — Ёсць адно слова, якое зробіць мяне найшчаслівейшым чалавекам на свеце. Ты пойдзеш за мяне замуж?

Яна: — Не!

Ён: — Вось яно, гэтае слова!

### НЕ БАЛЕЛА

З кабінета зубнога лекара выходзіць Міколка і плача.

Бабуля, якая чакае сваёй чаргі, пытае:

— Хлопчык, няўжо так балела?

— Ды не балела. Але калі б і вас трое трымалі, дык вы яшчэ б не так плакалі.

### МАРАЛЬНЫ

Малочнік: — Ты даліваў сёння ваду ў малако?

Новы памочнік: — Так.

Малочнік: — Ці ж ты не ведаеш, што гэта амаральна?

Памочнік: — Так, але вы ж самі сказалі...

Малочнік: — Я сказаў табе, што трэба спачатку наліць у бідон вады, а потым ужо дабаўляць туды малако. Тады мы з чыстым сумленнем можам гаварыць, што не разбаўляем малако вадой.

### МОДА



Made in Zadrypanka

### ІСТОТНАЕ ПЫТАННЕ

Гутараць дзве задрыпанкі:

— Ты ведаеш, я схудла на пяць кілаграмаў!

— А ты важылася з касметычкай ці без?

### НІХТО НЕ ЗВАЛІЎСЯ

У час падарожжа ў гарах турыст, заглядаючы ў прорву, кажа праваднiку:

— Мне здаецца, што трэба было б тут паставіць таблічку, якая папярэджвала б аб небяспецы.

— Ды таблічка тут была, — адказвае праваднік. — Але на працягу апошніх двух гадоў ніхто не зваліўся, таму яе і знялі.




### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Валянціны Леанчук з Залешан і Галены Яканюк з Барысаўкі змяшчаем песню*

## NIEBIESKA CHUSTECZKA

**Słowa: Artur Tur**
**Muzyka: Jerzy Petersburski**

Mała niebieska chusteczka,
Ta, którą noszę od lat,
Moja niebieska mała chusteczka
Mgłą przesłoniła mi świat.

Czy tu, czy tam
Stale przy sobie ją mam,
Bo tę niebieską małą chusteczkę
Tyś ofiarował mi sam.

Mała niebieska chusteczka
Mokra już była od łez,
Kiedyś na wojnę z mego miasteczka
Odjeżdżał na świata kres.

Czy tu, czy tam
Stale przy sobie ją mam,
Bo tę niebieską małą chusteczkę
Tyś ofiarował mi sam.

Nie trzeba wracać do wspomnień
Ból serca ukoi czas,
Naszej gorącej miłości płomień
Dawno na zawsze już zgasł.

Czy tu, czy tam
Po świecię błąkasz się sam,
A ja po tobie małą chusteczkę,
Jedną pamiątkę dziś mam.

З „Весніка Задрыпоніі“

### З СУДОВАЙ ЗАЛЫ

На шлюбаразводным працэсе гр. А. Панфілевіч на пытанне, чаму ён хоча развесціся з жонкай, адказаў, што пакахаў прыроду.

### ПЫТАННЕ НАЧАЛЬНІКА

Якія могуць быць жарты, калі смех — справа сур'ёзная?




— Шукай!

# Курёзы

### ІНКОГНІТА Ў СПАДНІЦЫ

У многіх краінах каля прыезджых іншаземных высокапастаўленых гасцей заўсёды таўчэцца натоўп другарадных суправаджаючых асоб. Але ў пераважнай большасці сваёй гэта асобы мужчынскага полу. А вось у ФРГ у апошнія гады парушаецца такая традыцыя. Сярод суправаджаючых часцей за ўсё сталі трапляцца жанчыны. Так, напрыклад, замежным гасцям, для якіх даюць прыёмы ўрадавыя органы ў Боне, намазоліла вочы маладая дзяўчына даволі прыкметнага і сімпатычнага выгляду, якая мае сучасную модную прычоску і адзета ў модны джынсавы касцюм. Што яна тут робіць, якую ролю выконвае, зусім не нагадваючы па ўзросту і знешняму выгляду дзяржаўнага дзеяча?

Дзяўчына не на жарт заінтрыгавала і айчынных і замежных газетных рэпарцёраў. На ўсеагульнае здзіўленне яны, нарэшце, устанавілі, што імя гэтай асобы Петра, ёй 24 гады і што гэта не хто іншы, як звычайны паліцэйскі агент-ахоўнік. Прычым яна ў дасканаласці валодае неабходнымі прыёмамі самаабароны і спартыўнай барацьбы, бо прайшла спецыяльны трохгадовы курс навучання ў паліцэйскай школе.

Мілая кампанія! Ніхто не здагадваецца, што пад сціплай джынсавай камізэлькай — жалезныя мускулы, якія здольны раскідаць гурт мужчын, паламаць сківіцы, рэбры, вывесці са стану прытомнасці. Праўда, называюць такіх жанчын-ахоўнікаў не зусім прыемна: „Гарыла“. Але справа не ў назве.




**Не бі ляжачага: біць няручна...**